*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ*



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года

№ 43 (1246) 28 КАСТРЫЧНІКА 2015 г.

# 2 лістапада - Дзяды

## 27 кастрычніка - Дзень памяці Вітаўта Вялікага



Вітаўт-Аляксандр Кейстутавіч (~1350 - 27 кастрычніка 1430) - князь гарадзенскі (1370-1382), князь луцкі (1370-1382), вялікі князь літоўскі (1392-1430). Абвешчаны кароль гусітаў. Сын Кейстута, пляменнік Альгерда і стрыечны брат Ягайлы.

Адзін з найбольш вядомых кіраўнікоў Вялікага Княства Літоўскага, яшчэ пры жыцці празваны Вялікім.

Вітаўт праводзіў палітыку цэнтралізацыі дзяржавы і ўмацавання велікакняскай улады. Вёў актыўную знешнюю палітыку. За часы Вітаўта ВКЛ працягвала падтрымліваць Цвярское і Разанскае вялікія княствы супраць Масквы. У 1395 уключыў у склад ВКЛ Смаленскае княства.

Вітаўт і Ягайла былі арганізатарамі разгрому нямецкіх рыцараў Тэўтонскага ордэна ў Грунвальдскай бітве 1410 годзе. Роля Вітаўта, прызначанага Ягайлам галоўнакамандуючым, у гэтай знакамітай бітве вялізарная. Пры Вітаўце ВКЛ дасягнула найбольшай магутнасці і памераў: ад пскоўскай мяжы да Чорнага мора і ад Акі і Курска да Галіцы. Заснаваў шэраг гарадоў у Прычарнамор’і.

*Вікіпедыя.*

## 130 гадоў з дня нараджэння Альбрэхта Вільгельма Антонія Радзівіла



**Альбрэхт РАДЗІВІЛ** (Альбрэхт Вільгельм Антоні Радзівіл; 30.10.1885, Берлін - 18.12.1935), герб "Трубы", 16-ы Ардынат на Нясвіжы, палітычны дзеяч. Сын Юрыя Фрыдэрыка Радзівіла (1860-1914), ардыната нясвіжскага і клецкага. У 1906 г. скончыў Пажаскі корпус у Пецярбургу. У 1914 г. атрымаў ва ўласнасць Нясвіжскую і Клецкую ардынацыі. Яго малодшы брат Леан Уладзіслаў Радзівіл у 1935-1939 гг. быў апошнім ардынатам нясвіжскім і клецкім.

Фінансаваў стварэнне польскіх вайсковых частак расійскай арміі, у 1917 г. - 1-ы польскі корпус Юзафа Доўбар-Мусніцкага. Пасля абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі ездзіў у (траўні ?) 1918 г. разам з Раманам Скірмунтам у Берлін і Швейцарыю забяспечыць ёй падтрымку.

У лютым-кастрычніку 1919 г. падхарунжы 12-га палка польскіх уланаў.

У міжваенны Польшчы стаў адным з лідараў "віленскіх кансерватараў" - манархічна-кансерватыўнай групоўкі, якая складалася з ліку землеўладальнікаў Заходняй Беларусі. З 1922 г. фінансаваў віленскую газету "Slowo" ("Слова"), дзе ў тым ліку публікаваліся матэрыялы па гісторыі і сучасным стане Нясвіжа. Стаў віцэ-прэзідэнтам Саюза абаронцаў "Крэсаў усходніх".

Альбрэхт Радзівіл памёр у Варшаве, пахаваны ў Нясвіжы.

Пакінуў дачку Эльжбету Марыю.

*Вікіпедыя.*

## Уганаруем старадаўнюю беларускую мову памятным знакам!

Беларускі патрыёт сп. М.Ярмашэвіч з Берасця на старонках "Народнай Волі" выступіў з прапановай усталяваць у Менску памятны знак у гонар дзяржаўнай беларускай мовы. Яго ініцыятыву падтрымаў сакратарыят ТБМ. Была сфармавана ініцыятыўная група па стварэнні аргкамітэта па гэтым пытанні на чале з старшынём ТБМ Алегам Трусавым.

Зараз сакратарыят ТБМ прапануе далучыцца да дзейнасці аргкамітэта беларускім пісьменнікам, навукоўцам, архітэктарам, скульптарам, мастакам, дызайнерам і бізнесоўцам.

Аргкамітэт напачатку павінен будзе зрабіць наступную працу:

1) Распрацаваць канцэпцыю помніка і зрабіць яго макет;
2) Вызначыць месца ў г. Менску для яго ўсталявання і ўзгадніць з органамі ўлады.
3) Скласці каштарыс і сабраць неабходныя сродкі для пабудовы гэтага мемарыяльнага знака.

Мы запрашаем неабыякавых грамадзян Беларусі далучыцца да працы аргкамітэта і дасылаць свае прапановы на адрас: г. Мінск, 220034, п/с № 41, ТБМ. Эл. адрас: siadziba@gmail.com.

*Сакратарыят ТБМ.*

**3 лістапада 2015 г.**

адбудзецца прэзентацыя зборніка

**Уладзімір Высоцкі. ПРА ЖЫЦЦЁ, ПРА ВОЛЮ, ПРА СЯБЕ…**

Зборнік утрымлівае арыгіналы і пераклады на беларускую мову 45 твораў Уладзіміра Высоцкага, найярчэйшага савецкага (ці, лепш бы сказаць, несавецкага) паэта, спевака, актора, у драматычным і трагічным лёсе (і адпаведна ў творчасці) якога яскрава і выразна адлюстравана адна з найбольш складаных эпох гісторыі Расіі і СССР, а таксама роздум перакладчыка аб жыцці і творчасці Высоцкага.

Пераклады твораў Высоцкага і прысвечаных яму вершаў Б. Акуджавы і А. Гарадніцкага зрабіў **Міхась Булавацкі.**

Пачатак а 17-й гадзіне ў сядзібе ТБМ (вул. Румянцава, 13, г. Менск).

Для даведак: bulavacki@gmail.com +375 444 779 222 (V)

ISSN 2073-7033




## 90 гадоў з дня нараджэння Льва Мірачыцкага

**Леў Паўлавіч МІРАЧЫЦКІ** (25 кастрычніка 1925, в. Баяры Навагрудскага павета, цяпер Карэліцкі раён - 2002) - беларускі гісторык-славіст, літаратар. Кандыдат гістарычных навук (1972).




Скончыў БДУ (1956). З 1956 навуковы супрацоўнік Дома-музея А. Міцкевіча ў Навагрудку, з 1958 старшы навуковы супрацоўнік і вучоны сакратар Літаратурнага музея Якуба Коласа АН Беларусі. З 1963 старшы рэферэнт Беларускага таварыства дружбы і культурных сувязей з замежнымі краінамі. З 1970 у Інстытуце гісторыі Нацыянальнай АН Беларусі. Даследуе культурныя сувязі Беларусі з Чэхіяй, Югаславіяй, Польшчай, Балгарыяй, Венгрыяй, Румыніяй, Германіяй, Францыяй і Фінляндыяй, жыццё і творчасць беларускіх і замежных дзеячаў культуры (М. Багдановіча, М. Гарэцкага, Л. Геніюш, Я. Коласа, А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, А. Марачкіна, Е. Лады, К. Пліцкі, Я. Матэйкі і інш.), нацыянальна-вызвольны рух на Беларусі.

Актыўны сябар ТБМ на працягу многіх гадоў.

Творы:

Сцежкамі вялікага паэта. Мн., 1957;

З незабыўных дарог. Мн., 1961;

Белорусско-чехословацкие культурные и научные связи. Мн., 1981;

Беларуска-югаслаўскія культурныя і навуковыя сувязі. Мн., 1992;

Светлым ценем Адама Міцкевіча: Эміграцыя з Навагрудчыны. Мн., 1994.

*Вікіпедыя.*

# ПАКЛІКАННЕ СЛОВАМ

## Інтэрв'ю з М.А. Даніловічам

*(Працяг. Пачатак у папяр. нумары.)*

***- Якую ролю адыгралі выкладчыкі ў далейшым станаўленні Вас як філолага, лінгвіста?***

- Пра ўсіх выкладчыкаў застаўся харошы ўспамін. Яны былі розныя. Адны клапаціліся, каб студэнты добра засвоілі праграмы курсаў, другія, акрамя гэтага, імкнуліся выхаваць грамадзянскую пазіцыю, патрыятычныя пачуцці. Двух выкладчыкаў, якіх я ўжо згадаў, лічу сваімі найлепшымі настаўнікамі. Абодва яны сталі прафесарамі. Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч - выключна інтэлігентны, тактоўны і патрабавальны. Таленавіты аратар, ён лекцыі чытаў, усё роўна як укладваў мазаіку: няспешна, слоўка да слоўка, ніводнай лішняй фразы, усё на сваім месцы, прыгожа. Ён вельмі тонка разбіраўся ў псіхалогіі літаратурных герояў. Прычым, чытаў заўсёды без паперкі, нават вершы-прыклады ці фрагменты прозы дэкламаваў па памяці. Студэнты ніколі не прапускалі яго заняткаў і стараліся даслоўна заканспектаваць лекцыю. Іван Якаўлевіч Лепешаў лекцыі чытаў вельмі дакладна, канкрэтна і даступна. Падкупляла яго дэмакратычнасць, з хлопцамі здароўкаўся за руку, на перапынках падбухторваў схадзіць у курылку і заадно пагаварыць пра навуку, хоць да кожнага студэнта ён звяртаўся толькі на "вы". Недалюбліваў савецкую сістэму, таемна даваў некаторым студэнтам пачытаць забароненую літаратуру. Памятаю, даў мне на адну ноч перапісаць надрукаваную на машынцы ананімную на той час паэму "Сказ пра Лысую гару". Сам захоплены лінгвістыкай, Іван Якаўлевіч быў здольны заразіць гэтым і студэнтаў. Ад яго зыходзіла магутная энергетыка і перадавалася таму, на каго ён уплываў. Тое, што лёс звязаў мяне з лінгвістычнай навукай, думаю, немалы прычынак Івана Якаўлевіча. Я ў яго пісаў дыпломную, з яго рэкамендацыі пайшоў у фразеалогію. Светлая памяць захавалася пра Таццяну Піліпаўну Сцяшковіч, якая ўсе гады працы ў нашай установе прысвяціла вывучэнню гаворак Гарадзеншчыны. Цалкам аддадзеная навукова-педагагічнай справе, яна закінула ў маю душу зерне пашаны да народнага, дыялектнага слова, адчування яго роднасці і прыгажосці.

***- Пасля сканчэння інстытута выбранай Вамі была дарога ў навуку?***

- Не зусім так. У той час у Гарадзенскім педінстытуце яшчэ ні па адной спецыяльнасці не было аспірантуры. Мяне размеркавалі на працу ў школе. Паколькі па рэйтынгавых паказчыках я значыўся адным з першых у спісе, камісія па размеркаванні прапанавала найбольш прэстыжнае месца працы - у Гародні. Але горад мяне не прываблiваў, быў чужы, хацелася ў натуральную беларускамоўную стыхію - вёску. І я адмовіўся ад горада. Трошкі здзіўленая такой нечаканкай, камісія дала права выбару любога з прапанаваных раёнаў, і я выбраў свой, Гарадзенскі, раён. Раённы аддзел адукацыі вызначыў мне Цідовіцкую сярэднюю школу. І я з цікавасцю акунуўся ў настаўніцкае жыццё. Праца з вучнямі падабалася. Імкнуўся, каб дзеці не цураліся мовы, на якой размаўляюць іх бацькі, каб адчулі роднасць, прыгажосць і багацце беларускага слова. Думаю, што ў некаторай ступені мне гэта ўдавалася. Пяць маіх вучняў закончылі Гарадзенскі ўніверсітэт імя Янкі Купалы па спецыяльнасці "беларуская філалогія". Вайцяхоўская (Манкевіч) Алена стала кандыдатам навук, зараз яна загадчык аддзела ў Інстытуце мовы і літаратуры АН РБ. Праз год працы ў школе атрымаў пісьмо ад дэкана філалагічнага факультэта Лаўрынайціс Елізаветы Іосіфаўны. Яна напісала, што Гарадзенскі педінстытут стаў універсітэтам, і ў сувязі з гэтым будуць адкрывацца аспірантуры, у тым ліку і па беларускай мове. На прапанову запісацца завочна спашукальнікам, каб здаць кандыдацкія мінімумы і затым паступіць у аспірантуру, я з задавальненнем адгукнуўся. Такім чынам, у школе я прапрацаваў два гады і ў 1979 годзе стаў аспірантам.

***- Вызначальным у навуковым лёсе аспіранта становіцца імя навуковага кіраўніка…***

- З выбарам навуковага кіраўніка цэлая гісторыя атрымалася. Спачатку планавалася, што кіраўніком будзе І. Я. Лепешаў. Пасля высветлілася, што ён не мае права кіраваць, паколькі яшчэ не з'яўляецца доктарам навук. Тадышні загадчык кафедры беларускай мовы Валянцін Іванавіч Марозаў пачаў шукаць іншыя варыянты. Якраз у той час у нас на філфаку чытаў лекцыі акадэмік АН БССР М.В. Бірыла. В.І. Марозаў прывёў мяне да акадэміка. Мы пагутарылі, і М.В. Бірыла даў згоду быць кіраўніком. Праз колькі часу І.Я. Лепешаў даведаўся пра гэта і, мякка кажучы, моцна расхваляваўся. Ён лічыў сапраўднай навукай толькі фразеалогію, а антрапаніміку, г.зн. навуку пра імёны і прозвішчы, якой займаўся М. В. Бірыла, называў пустатой, дзіцячай забаўкай. І аддаць мяне на антрапаніміку - гэта, на яго думку, было б недаравальнай памылкай, змарнаваннем навуковай будучыні. Далей падзеі разгорталіся наступным чынам. Карыстаючыся тым, што загадчык кафедры В. І. Марозаў быў у адпачынку, І.Я. Лепешаў вязе мяне ў Мінск да фразеолага прафесара Фёдара Міхайлавіча Янкоўскага. Прафесар выслухаў нашу просьбу і сказаў: "Ну што ж, я сабе аспірантаў не выбіраю. Калі ў цябе ёсць такое жаданне быць пры мне, то будзь". Такім чынам, кіраўніком зацвердзілі Ф.М. Янкоўскага, і фармулёўка тэмы кандыдацкай дысертацыі амаль супала з фармулёўкай тэмы маёй дыпломнай працы. Калі В.І. Марозаў выйшаў з адпачынку і даведаўся пра нашу самадзейнасць, то вельмі разгневаўся, але ён быў чалавек адыходлівы, добры і ў хуткім часе прыміраўся з тым, што сталася.

***- Чым Вам запомніліся аспіранцкія часы? Ці атрымалася з галавой акунуцца ў вір навуковай справы?***

- Атрымалася, але не адразу. Тады дзейнічала заканадаўства, што выпускнікі педагагічных спецыяльнасцяў ВНУ, размеркаваныя на працу ў вясковую школу, мелі браню ад прызыву ў войска. У сувязі з тым, што я перастаў працаваць настаўнікам і займеў гарадскую прапіску, гэтая броня аўтаматычна страчвалася, і я на паўтара года "загрымеў" у шэрагі савецкай арміі. Трапіў у Печы - самую суровую вучэбку ў Савецкім Саюзе. Пасля Печаў служыў танкістам у Слоніме, Полацку, Брэсце. Вярнуўся з войска восенню 1981 года і сапраўды цалкам аддаўся працы па тэме дысертацыі. Вельмі многа чытаў, выпісваў, складаў картатэку. Тэма гучала так: "Граматычная характарыстыка фразеалагізмаў сучаснай беларускай літаратурнай мовы". Фразеалагічнага слоўніка літаратурнай мовы яшчэ не было, таму ўвесь фактычны матэрыял даводзілася шукаць самому ў тэкстах мастацкай, публіцыстычнай, навуковай літаратуры. Прачытаў творы больш як ста беларускіх пісьменнікаў, склаў картатэку больш як на шаснаццаць тысяч картак. Такога фактычнага матэрыялу хапіла, каб напісаць дысертацыю. Часта ездзіў у Мінск пасядзець у бібліятэках. Найбольш працаваў у Ленінцы. Там лунаў дух навукі, культ навукі. Усе наведвальнікі былі захопленыя клопатам навуковых пошукаў. Помню Міколу Ермаловіча, які кожны дзень прыязджаў з Маладзечна і сядзеў да апошняга званка, адкрываў сапраўдную гісторыю Беларусі. Помню Міхася Яўневіча, які не мог і дня пражыць, каб не забегчы хоць на пятнаццаць хвілін, хоць пад самы канец рабочага дня і пасядзець за сталом у чытальнай зале. А колькі маладых вучоных, аспірантаў шукалі, чыталі, выпісвалі, у часе перакураў дзяліліся ўражаннямі ад знаходак, дыскутавалі, спрачаліся. Паветрые навукі заражала ўсю істоту. Я нават адчуваў пах навукі. На поўным сур'ёзе кажу: для мяне навука пахла, мела нейкі спецыфічны, невытлумачальны пах. Гэта абуджала жаданне працаваць, знаходзіць адказы на пастаўленыя пытанні, рабіць для сябе лінгвістычныя адкрыцці. У бібліятэцы я прачытаў больш за пяцьсот артыкулаў і кніг. І ўсё канспекталася ад рукі, камп'ютараў тады не было, фатаграфаваць старонкі не дазвалялася. Па тэме кандыдацкай дысертацыі канспекты навуковай літаратуры занялі аж шэсць агульных сшыткаў.

***- Аспірантура, напэўна, была і добрай нагодай пазнаёміцца з навуковай грамадскасцю, з беларускімі мовазнаўцамі...***

- Так, на кафедры беларускага мовазнаўства Мінскага педінстытута, дзе загадчыкам быў мой навуковы кіраўнік, я пазнаёміўся з такімі вядомымі асобамі, як М.С. Яўневіч, А.А. Каўрус, Э.Д. Блінава, Н.В. Гаўрош, Т.М. Трыпуціна, Н.М. Нямковіч і інш. Часта бываў у акадэмічным Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа, там калупаўся ў фундаментальнай картатэцы, шукаў прыклады ўжывання фразеалагізмаў. Мне падабалася, што супрацоўнікі Інстытута - людзі вельмі простыя, даступныя, без якога б там навуковага зазнайства. Усе яны сядзелі ў сваіх працоўных кабінетах і будзённа, спакойна рабілі навуку. Са мной, яшчэ зялёным аспірантам, які завітаў невядома адкуль, яны размаўлялі без высакамернасці, як роўны з роўным. З курцамі, дактарамі навук А.І. Жураўскім, А.М. Булыкам, А.І. Падлужным, прыемна было выйсці пакурыць і пагаварыць на розныя навуковыя і ненавуковыя тэмы. Дырэктар Інстытута М.Р. Суднік пры сустрэчы часта пытаўся ў мяне, як і ў многіх іншых, адносна якога-небудзь слова: "Ці гавораць так у вас?" Тады Інстытут працаваў над складаннем "Тлумачальнага слоўніка беларускай мовы", і любая лінгвістычная інфармацыя для кіраўніка аўтарскага калектыву слоўніка мела каштоўнасць. Помню, з якой адказнасцю, з якім усведамленнем важнасці гістарычнай місіі вычытваў выдавецкія гранкі чарговага тома Тлумачальнага слоўніка сапраўдны кніжнік і працаголік у найлепшым сэнсе гэтага слова Мікола Нілавіч Крыўко. Тадышні вучоны сакратар Інстытута Павел Аляксандравіч Міхайлаў заўсёды прыязна сустракаў, запрашаў у свой кабінет і распытваў пра справы, пра Гародню.

Мінск спрыяў знаёмству з аспіранцкім асяроддзем, кантактаванню з пачаткоўцамі, якія пасля сталі паважанымі асобамі ў беларускай лінгвістычнай супольнасці. У сталіцы я наведваўся звычайна ненадоўга: на некалькі дзён, на тыдзень-два. Трэба было на гэты час шукаць начлег. У гасцініцах - дорага. Заўсёды выручалі аспіранты. На вуліцы Артылерыстаў-16 быў аспірантскі інтэрнат, і там я знаходзіў сабе нелегальны прытулак. Найчасцей начаваў у пакойчыку аспіранта Тамаша Тамашэвіча. Ён - на ложку, а я - на матрацы на падлозе. Жонка Тамаша Зоя тады была ў адпачынку, гадавала малых дзяцей і жыла ў бацькоў на Случчыне, і Тамаш часта з'язджаў да яе на некалькі дзён. Тады мне было раскошна - перасяляўся на ягоны ложак. Даводзілася начаваць і ў Сашы Лугоўскага, які пісаў дысертацыю па методыцы выкладання літаратуры. Цёплыя ўспаміны засталіся і пра такіх аспірантаў, як Віктар Несцяровіч, Валя Мароз, Люда Васюковіч, Таня Дзікун, Мікалай Аляхновіч (з Мінскага педінстытута), Мікалай Прыгодзіч, Генадзь Арцямёнак, Мікалай Зуеў (з БДУ), Аляксандр Лукашанец, Канстанцін Шчэрбін (з Інстытута мовазнаўства).

***- Як наладжвалася ўзаемадзеянне з навуковым кіраўніком? Якія парады Фёдара Міхайлавіча сталі самымі карыснымі?***

- Фёдар Міхайлавіч Янкоўскі кіраўнік быў строгі. Аспіранты яго баяліся і да сустрэчы з ім на кансультацыі рыхтаваліся вельмі сур'ёзна. Ён шмат увагі ўдзяляў выхаванню ў сваіх вучняў культуры пісьма. Аспіранцкія артыкулы пры падрыхтоўцы да друку крэмсаў па некалькі разоў. Вельмі ўдзячны яму за тое, што ён прывучыў у навуковым сачыненні з адказнасцю ставіцца да выбару кожнага слова, да кожнага радка. Што да навуковых пошукаў аспіранта, то навуковы кіраўнік прытрымліваўся прынцыпу неўмяшальніцтва. Давалася поўная воля праз спробы і памылкі прыйсці да навуковай ісціны самастойна. За ўвесь час навучання ў аспірантуры я задаў яму толькі два пытанні, на якія ён адказаў па-філасофску: "Адны лічаць так, другія - па-іншаму. А ты глядзі, прыйдзі да высновы, што правільна". Гэта выхоўвала самастойнасць у працы, спадзяванне толькі на свае ўласныя сілы. Ф.М. Янкоўскі не шкадаваў часу на кантакты з аспірантамі. Клапаціўся пра іх бытавыя ўмовы, наведваў іх у інтэрнаце, абавязкова патрабаваў прысутнічаць на ўсіх паседжаннях кафедры, весці і афармляць пратаколы паседжанняў. Не раз поштай дасылаў мне ў Гародню лісты. На кожны ліст я доўга рыхтаваў адказ. Спачатку пісаў на чарнавіку, пасля рэдагаваў напісанае, перапісваў і, калі бачыў, што папраўляць больш няма чаго, укладваў ліст ў канверт (які абавязкова павінен быў мець беларускае афармленне) і нёс на пошту. Рэгулярна паштоўкамі віншаваў свайго кіраўніка са святамі. Такія цесныя кантакты давалі свой плён. Амаль усе аспіранты прафесара Янкоўскага (здаецца, 25 чалавек) паспяхова абаранілі свае дысертацыі. Фёдар Міхайлавіч быў сапраўдным, не паказным патрыётам беларускай мовы і Беларусі і стараўся выхоўваць гэтую якасць і ў сваіх падапечных. Не выпадкова тых, хто прайшоў праз яго рукі, называлі і называюць "янкоўшчыкамі". Яны раз'ехаліся па многіх гарадах Беларусі і сёння выступаюць паважанымі прадстаўнікамі беларускага мовазнаўства.

***- Наступным важным фактам у Вашай біяграфіі становіцца абарона кандыдацкай дысертацыі?***

- Так, працаваў я вельмі многа - дзень і ноч у прамым сэнсе гэтых слоў. І дысертацыю падрыхтаваў за чатыры месяцы да сканчэння аспірантуры. Абарона праходзіла ў БДУ. Гэта быў 1984 год. Кіраўніком савета па абароне быў Л.М. Шакун, сакратаром - П.П. Шуба, апанентамі - А.Я. Міхневіч і Г.М. Малажай. Абараніўся паспяхова, і праз месяцы чатыры тадышні ВАК СССР у Маскве зацвердзіў дыплом кандыдата навук.

***- І далей пайшлі, пакаціліся працоўныя будні…***

- Працаўладкаваць мяне як мэтавіка абавязана была кафедра беларускай мовы ГрДУ. Аднак стаўкі на кафедры не было, і мяне часова аформілі лабарантам. Праз два месяцы пайшла на пенсію Шакурава Галіна Пятроўна, і мяне ўзялі замест яе асістэнтам. Далі шэраг курсаў пад тысячу гадзін, і я іх дзень і ноч распрацоўваў. Настрой быў добры, бо яшчэ малады, бо яшчэ жыццё наперадзе. А далей, сапраўды, пакаціліся, як па трафарэце, па ўсіх ступеньках. Дацэнт, навуковы супрацоўнік, прафесар, загадчык кафедры… Здаецца, усё пройдзенае - такое будзённае, папярэдні навучальны год як дзве кроплі вады падобны на наступны, хіба што толькі з некаторымі нязначнымі адметнасцямі. Прайшло больш як трыццаць гадоў з таго часу, калі я стаў выкладчыкам універсітэта, а здаецца, як адзін дзень, як адно імгненне.

***- Можа быць, успомніце, што стала найбольш цікавым, важным? З якімі думкамі, спадзяваннямі працавалася?***

- Першыя гады працы супалі з пачаткам грамадскіх перамен. Нарэшце, генеральным сакратаром стаў нестары, энергічны, харызматычны М.С. Гарбачоў. З таго часу ў грамадстве, якое 70 гадоў было прыціснута камуністычным прэсам, пачаў распасцюджавацца дух разняволення. Людзі адчулі, што могуць выказваць свае думкі і за гэта іх не караюць. У Рэспубліцы прайшла акцыя па зборы подпісаў за адраджэнне беларускай мовы, наданне ёй статусу дзяржаўнай. Падпісалі гэтую паперу і я з жонкай. Праз колькі часу ўсіх падпісантаў паклікалі ў Мінск. З беларускімі інтэлігентамі вельмі доўга, на працягу некалькіх гадзін, вялі гутарку першыя асобы: Першы сакратар ЦК КПБ Я.Я. Сакалоў і Старшыня Вярхоўнага Савета БССР Г.С. Таразевіч. Пасля гутаркі… адпусцілі дамоў. Людзі адчулі, што да іх голасу прыслухоўваюцца, што яны нешта значаць і могуць.

*(Працяг у наступным нумары.)*





***Павел Сіяцко***

# Айконімы Беларусі.

## Частка І. Назвы населеных пунктаў Зэльвеншчыны

Айконімы маюць шмат крыніц свайго паходжання. Гэта ўласныя асабовыя імёны і ўтвораныя ад іх прозвішчы, імёны-мянушкі асобы і ўтвораныя ад іх прозвішчы, геаграфічныя і тапаграфічныя адметнасці тэрыторыі і іншыя.

Матэрыялам для даследавання паслужылі айконімы Зэльвеншчыны, зафіксаваныя ў кнізе "Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь: Гродзенская вобласць. Нарматыўны даведнік" . - Мінск: Тэхналогія, 2004. -471 с. - С.205-216: Зэльвенскі раён.

Як паказаў аналіз, найбольшую колькасць найменняў населеных пунктаў Зэльвеншчыны складаюць адымёнавыя ўтварэнні. Таму з іх і пачынаем разгляд.

Непасрэдна найменнем паселішча (вёска) стала імя *Супрун* (< *Софоний*), яго множналікавая форма **Супруны** (падаецца ў рубрыцы "Страчаныя назвы" (с. 216). Імя набыло ролю прозвішча *Супрун* (у кнізе "Память. Гісторыка-дакументальная хроніка Зэльвенскага раёна". (Мінск, 2003 на с. 322 чытаем: *Супрун* Іван Сямёнавіч (вёска Залацеева).

Ад уласнага імя *Александрыя* (< *Аляксандр*) утворана назва вёскі ***Александрыя*** (Дзярэчынскі сельсавет).

Найбольш блізкія да імёнаў тыя айконімы, што ўтвораны пры дапамозе прыналежных суфіксаў ***-оў/-еў/-аў/-ін/-ын*** ад асабовых уласных імёнаў (кананічных ці народна-гутарковых). Такія айконімы першасна былі кампанентамі двухслоўных найменняў -аналітычных назваў, а потым у адпаведнасці з законам моўнай эканоміі "сцягнуліся" (кандэнсаваліся) у аднаслоўныя, дзе першы кампанент-прыметнік стаў назоўнікам. Такімі на Зэльвеншчыне з'яўляюцца тры айконімы: ***Агатава, Тадзіно, Франкова***. Разгледзім іх.

***Агатова*** і ***Агатава*** (Дабрасельскі сельсавет) паходзіць ад імя *Агата* з прыналежным суфіксам ***-ава***: *Агат-ава*. Першасная форма *Агатава* маёмасць (уладанне); форма з націскам на суфіксе - *Агатóва* - пад уплывам польскай мовы (націск на перадапошнім складзе слова).

***Тадзіно*** (хутар; Ялуцавіцкі сельсавет) - прыметнікавая форма з суфіксам ***-іно*** ад *Тадзё* (гутарковая форма ад польск. катал. *Тадэвуш*): *Тадзіно* (Т. уладанне): канцавое ***о*** - пад уплывам мясцовых гаворак, дзе захоўваецца ў маўленні канцавое ненаціскное "***о***" (*жыто, сено*).

***Франкова*** (Сынкавіцкі сельсавет) - прыметнікавая форма з суфіксам ***-ов-а*** ад *Франак* (*Францішак*): ***Франкова*** (< *Франкава* ўладанне).

***Каралін*** (цэнтр Каралінскага сельсавета) - ад жаночага ўласнага асабовага імя *Караліна* ці мужчынскага *Кароль (Карл)*, якое стала прозвішчам (утварэнне з суфіксам -***ін***: *Карал-ін*), а потым набыло ролю айконіма.

Наступную групу адымёнавага паходжання складаюць айконімы з суфіксамі -***ічы/-овічы/- евічы/-авічы***. Гэта былыя найменні асобы па бацьку (дзеду, прадзеду), якія сталі прозвішчамі, а ў множналікавай форме - назвамі паселішчаў - айконімамі. Падаем іх разгляд з улікам алфавіту.

***Алексічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) - ад прозвішча *Алексіч* (утварэнне з суфіксам ***-іч*** ад *Алексій: Алекс-іч*), якое ў множналікавай форме *Алексічы* стала абазначаць 'паселішча' (вёска з жыхарамі, якія маюць прозвішча *Алексіч*).

***Аўдзеевічы*** (Ялуцавіцкі сельсавет) - ад прозвішча *Аўдзеевіч* (утварэнне з суфіксам ***-евіч*** ад імя *Аўдзей*: *Аўдзей-эвіч*) і паказчыкам формы множнага ліку канчаткам ***-ы*** *Аўдзеевічы*, якое набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Валькевічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) - ад прозвішча *Валькевіч* (утварэнне з суфіксам ***-евіч*** ад *Валька (Вальо)* (< *Вялянцін*), якое ў множналікавай форме *Валькевічы* набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Грыцкавічы*** (Зэльвенскі сельсавет) - ад прозвішча *Грыцкавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад *Грыцко* ( < *Грыгорый*) , множналікавая форма якога стала абазначаць 'паселішча' (з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Зенькаўцы*** (Славаціцкі сельсавет) - ад прозвішча *Зенькавец* (утварэнне ад імя *Зенька (< Зенон)* і яго прыметнікавай формы *Зенькава* (уладанне, мясцовасць), ад якой найменне асобы з суфіксам ***-ец*** *Зенькавец*), множналікавая форма *Зенькаўцы* набыло значэнне 'паселішча' (з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Івашкавічы*** (Каралінскі сельсавет) - ад прозвішча *Івашкавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад *Івашка (< Іван)*, якое ў множналікавай форме набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Клімавічы*** (Галынкаўскі сельсавет) - ад прозвішча *Клімавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад *Клім (< Клімент)*, якое у множналікавай форме *Клімавічы* набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Косцевічы*** (Каралінскі сельсавет) - ад прозвішча *Косцевіч* (утварэнне ад імя *Косця (< Канстанцін)* з суфіксам ***-евіч***: *Косц-евіч*), якое у множналікавай форме набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Лаўрыновічы*** (Каралінскі сельсавет) - ад прозвішча *Лаўрыновіч* (утварэнне з суфіксам ***-овіч*** ад імя *Лаўрын (< Лаўрэнцій)*, якое ў множналікавай форме *Лаўрыновічы* набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Марцінавічы*** (Крамяніцкі сельсавет) - ад прозвішча *Марцінавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад імя *Марцін*), якое ў множналікавай форме *Марцінавічы* набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Мелехавічы*** (Славаціцкі сельсавет) - ад прозвішча *Мелехавіч* (утварэнне з суфіксам *-авіч* ад імя *Мелех (< Емельян)*, множналікавая форма якога *Мелехавічы* набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Паўлавічы*** (Славаціцкі сельсавет) - ад прозвішча *Паўловіч (< Паўлавіч)* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад імя *Павел*), множналікавая форма якога *Паўлавічы* набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Пятрэвічы*** (Каралінскі сельсавет) - ад прозвішча *Пятрэвіч* (утварэнне з суфіксам ***-эвіч*** ад імя *Петра (<Петр)*, форма множнага ліку якога *Пятрэвічы* набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Савічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) - ад прозвішча *Савіч* (утварэнне з суфіксам ***-іч*** ад імя *Сава (< Савва)*, множналікавая форма якога *Савічы* набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Хамічы*** (Славаціцкі сельсавет) - ад прозвішча *Хаміч* (утварэнне з суфіксам ***-іч*** ад імя *Хама (< Фама)*, множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Цераховічы*** (Славаціцкі сельсавет) - ад прозвішча *Цераховіч* (< *Цераховіч* 'імя па бацьку') (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад імя *Церах*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

Ад уласных асабовых імёнаў паходзяць і айконімы на ***-шчына /-оўшчына/-аўшчына***. Гэтыя назвы паселішчаў першапачаткова былі двухслоўнымі з першым кампанентам-прыметнікам з суфіксам ***-скі/-оўскі/-еўскі/-аўскі***, які меў значэнне прыналежнасці, потым да асновы яго быў далучаны суфікс ***-іна (-ына)***, у выніку іх спалучэння ўзнік тапанімічны (айканімічны) фармант (суфікс разам з канчаткам) - ***шчына/-оўшчына/-аўчына***, напрыклад: *Аляксандр - Аляксандраўскі* (надзел, тэрыторыя) - ***Аляксандраўшчына*** (*Аляксандр-аўш-ына, ск/шч)*. Такія айконімы першасна мелі значэнне 'ўладанне, надзел зямлі'.

На Зэльвеншчыне чатыры айконімы гэтага тыпу.

***Аляксандраўшчына*** (Каралінскі сельсавет) - ад імя *Аляксандр* з фармантам ***-аўшчына***: *Аляксандр-аўшчына*.

***Віскоўшчына*** (Каралінскі сельсавет) - ад прозвішча *Віско* (утварэнне ад канан. імя *Віктар* ці *Вікенцій, Вінцэнт*) з фармантам ***-оўшчына***: *Віскоўшчына*.

***Юнкаўшчына*** (Дабрасельскі сельсавет) - ад прозвішча *Юнко* (утварэнне ад імя *Юний* з суфіксам ***-к-о***: *Юн-ко*) з фармантам *-аўшчына*: *Юнкаўшчына*.

***Янаўшчына*** (Тулаўскі сельсавет) - утварэнне ад прыметнікавай формы з суфіксам ***-ава*** ад імя *Ян (Янава)* з далучэннем фарманта *-шчына* - *Яноў-шчына (Ян-аў-шчына)*.

Другую групу айконімаў Зэльвеншчыны складаюць утварэнні ад імёнаў - мянушак асобы, якія пры далучэнні суфіксаў ***-іч/-овіч/-евіч/-авіч*** сталі прозвішчамі (а да гэтага - імёнамі па бацьку (дзеду) названай асобы). Таких зарэгістравана на Зельвеншчыне 22 адзінкі.

***Авечыцы*** (Славаціцкі сельсавет) - першасна *Авечычы* - ад прозвішча *Авечыч* (утварэнне ад мянушкі *Авечка* з суфіксам ***-іч*** *(Авечыч)* і значэннем 'імя па бацьку') - множналікавая форма якога *Авечычы* (> *Авечыцы*) набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Бародзічы*** і ***Барадзічы*** (Зэльвенскі сельсавет) - ад прозвішча *Бародзіч* (утварэнне суфіксам ***-іч*** ад мянушкі *Барада* 'барадаты чалавек'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Варонічы*** (Галынкаўскі сельсавет) - ад прозвішча *Вароніч* (утварэнне з суфіксам ***-іч*** ад мянушкі *Варона* (< *варона* 'птушка'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Даўгаполічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) - ад прозвішча *Даўгаполіч* (утварэнне з суфіксам ***-іч*** ад мянушкі *Даўгаполы* ('з доўгімі поламі адзення'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Дзешкавічы*** (Сынкавіцкі сельсавет) - ад прозвішча *Дзешкавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад мянушкі *Дзешка*, множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Казловічы*** (Сынкавіцкі сельсавет) - ад прозвішча *Казловіч* (утварэнне з суфіксам ***-овіч*** ад мянушкі *Казёл* (< *казёл* 'свойская ці дзікая жывёла'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Крывічы*** (Дзярэчынскі сельсавет) - ад прозвішча *Крывіч* (утварэнне ад мянушкі *Крывы* (< *крывы*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам). Назва паселішча *Крывічы* магла ўзнікнуць і ад наймення ўсходнеславянскага племені *крывічы*.

***Ляхавічы*** (Крамяніцкі сельсавет) - ад прозвішча *Ляхавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад мянушкі *Лях* (< *лях* 'паляк'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Пінскавічы*** (Галынкаўскі сельсавет) - ад прозвішча *Пінскавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад *Пінскі* (< *Пінск*), якое ў множналікавай форме набыло значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Рудзевічы*** (Дабраселецкі сельсавет) - ад прозвішча *Рудзевіч* (утварэнне з суфіксам ***-евіч*** ад мянушкі *Рудзь* (<*рудзь* ад руды (колер)), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Самаравічы*** (Крамяніцкі сельсавет) - ад прозвішча ***Самаравіч*** (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад мянушкі *Самара* ( <*Самара* - горад у Расіі), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Славацічы*** (Славаціцкі сельсавет) - ад прозвішча *Славаціч* (утварэнне ад *Славак* (< *славак*, этнонім) з суфіксам ***-іч*** (чарг. *к/ц*) - *Славак-іч - Славаціч*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Сынкавічы*** і ***Сынковічы*** (Сынкавіцкі сельсавет) - ад прозвішча *Сынкавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад мянушкі *Сынко (Сынок)* (< *сын*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Цяглевічы*** (Дабраселецкі сельсавет) - ад прозвішча *Цяглевіч* (утварэнне з суфіксам ***-евіч*** ад мянушкі *Цягло* ( < *цягацца - цягло*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Ялуцавічы*** (Ялуцавіцкі сельсавет) ад прозвішча *Ялуцавіч* (утварэнне з суфіксам ***-авіч*** ад мянушкі *Ялуца* (< *Ялума* < *Яўлампі*) з значэннем 'імя па бацьку названай асобы'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Яруцічы*** (Славаціцкі сельсавет) - ад прозвішча *Яруціч* (утварэнне з суфіксам ***-іч*** ад *Ярута* (< *Яры*) - *Яруц-іч*), множналікавая форма якога *Яруцічы* набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

Наступную групу складаюць множналікавыя айконімы, утвораныя ад апелятыўных мянушак-прозвішчаў (іх 18).

***Барукі*** (Галынкаўскі сельсавет) - ад прозвішча *Барук* (семантычнае ўтварэнне з суфіксам ***-ук*** ад *барукацца* 'дужацца' - 'той, хто дужаецца (барукаецца); літарат. *барэц, змаганнік*), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Бібікі*** (Дзярэчынскі сельсавет) - ад прозвішча *Бібік* (семантычнае ўтварэнне ад дзеяслова *бібікаць* 'пераймаць сігналы (позвы) машын: *бібі-бібі-бібі-бібі*! - (Інакш: *піпікаць*)' - 'той, хто бібікае', "сігнальшчык"), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Дзеркачы*** (Ялуцавіцкі сельсавет) - ад прозвішча *Дзяркач* (семантычнае ўтварэнне ад *дзяркач* 'невялікая лугавая птушка з характэрным скрыпучым голасам', тое, што і драч. Або ад *дзяркач* 'сцёрты венік, голік'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Драпаўцы*** (Сынкавіцкі сельсавет) - ад прозвішча *Драпавец* (утварэнне з суфіксам ***-ец*** ад айконіма *Драпава* з значэннем 'жыхар названай мясцовасці'), множналікавая форма якога стала абазначаць паселішча, дзе жывуць асобы з названым прозвішчам.

***Жадзейкі*** (Ялуцавіцкі сельсавет) - ад прозвішча *Жадзейка* (утварэнне з суфіксам ***-ейка*** ад *жадны* (< *жадаць*) 'прагны'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з назвнным прозвішчам).

***Кабакі*** (Галынкаўскі сельсавет) - ад прозвішча *Кабак* (семантычнае ўтварэнне ад *кабак* (рус.) 'карчма, шынок'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названым прозвішчам).

***Кандакі*** (Крамяніцкі сельсавет) - ад прозвішча *Кандак* (семантычнае ўтварэнне ад *кандак* 'песня ў гонар Хрыста, Багародзіцы'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названным прозвішчам).

***Каняўцы*** (Крамяніцкі сельсавет) - ад прозвішча *Канявец* (утварэнне з суфіксам ***-ец*** ад *Конеў* (< *Конь* < *конь* 'свойская цяглавая жывёла'), множналікавая форма якога набыла значэнне 'паселішча' (вёска з жыхарамі з названным прозвішчам).

*(Працяг у наступным нумары.)*

# Віншуем сяброў ТБМ, якія нарадзіліся ў лістападзе

Абрагімовіч Марына Яўген.
Аліхвер Людміла Уладзіслав.
Амінава Святлана
Андрэева Галіна Андрэеўна
Андрэйкавец Надзея Дзмітр.
Анціфораў Алег Мікалаевіч
Анцыповіч Максім Рыгоравіч
Асецкі Аркадзь
Асмакоўская Алена
Атрахімовіч Іосіф Канстанцін.
Бабак Вольга
Бабкова Ганна Ігараўна
Баранаў Аляксандр Георгіевіч
Бародка Зміцер Міхайлавіч
Бартасевіч Людміла
Баўтовіч Міхась
Бахвалаў Дзмітры
Белакоз Вера
Борын Алег Мікалаевіч
Булаш Алена
Бусько Сафія Раманаўна
Бухавец Пятро Пятровіч
Быцкевіч Сяргей Аляксандр.
Бляўская Тацццяна
Ваданосава Фаіна Аляксандр.
Васько Віктар Вячаслававіч
Ветчынаў Сяргей
Вікторчык Ніна Сяргееўна
Віценя Алег Аляксандравіч
Вішнеўскі Павел Уладзімір.
Волкаў Алег
Вярцінскі Анатоль Ільіч
Галяшоў Зміцер
Ганчарова Тацццяна
Гарлуковіч Яўген Дзмітрыевіч
Гівоіна Вольга Міхайлаўна
Главацкіх Васіль Б.
Глухава Святлана Пятроўна
Гнедчык Алег
Горбач Аляксандр Клаўдзіевіч
Груша Дар'я Уладзіміраўна
Грыб Ян Янавіч
Грыгаровіч Андрэй Анатол.
Губарэвіч Віктар Дзмітрыевіч
Гур'ян Алена Барысаўна
Гучок Яўген Сяргеевіч
Дабравольскі Аляксандр Ал.
Давыдзька Святлана
Данішэвіч Вольга Вячаслав.
Дацэнка Аляксандр Кірылавіч
Дзербянёва Анжаліка
Дзіцэвіч Людміла Мікалаеўна
Дзядзюля Вера
Длатоўская Аліна Аляксандр.
Домаш Валянціна Іосіфаўна
Досіна Алена
Доўнар Аляксандр Андрэевіч
Драгун Данута
Драздовіч Алена Станіслав.
Дрыга Святлана Мікалаеўна
Дубко Ганна Міхайлаўна
Дубовік Іна Пятроўна
Дуброў Алег Анатольевіч
Ермакова Аляксандра Мікал.
Есьман Рыгор Міхайлавіч
Еўсіевіч Наталля Анатольеўна
Ефіменка Ганна Сяргееўна
Ждановіч Міхаіл Васільевіч
Зайкоўскі Эдвард Міхайлавіч
Зарэцкая Вера Якаўлеўна
Здановіч Уладзімір Васільевіч
Зуева Галіна Паўлаўна
Ігнатчык Андрэй Валер'евіч
Іокша Марыя Мікалаеўна
Кавалёва Алена Пятроўна
Кавалёў Аляксей Аляксандр.
Кадыш Любоў
Кажамякін Генадзь Вячаслав.
Казакоў Алесь
Казачонак Сяргей
Казлоўскі Руслан Канстанцін.
Калатоўкіна Ларыса Анатол.
Калчанаў Алег Аляксеевіч
Капойка Уладзімір
Карповіч Ірына Іванаўна
Касцюк Тацццяна Уладзімір.
Кацяшоў Дзмітры Сяргеевіч
Кіеня Уладзімір Уладзіміравіч
Кірэева Алена Уладзіміраўна
Клікун Тацццяна
Козел Валеры
Козел Галіна Маркаўна
Корнеў Аляксандр Касьянавіч
Кошкіна Людміла Чаславаўна
Круглік Уладзімір Анатол.
Крук Валянціна Іосіфаўна
Крыжаноўская Вольга Алякс.
Кудзёлка Генадзь Міхайлавіч
Кудлацкая Валянціна
Кужанава Вольга
Кузьма Аляксандр
Кузьміч Мікалай Пятровіч
Кулакевіч Сяргей Адамавіч
Купрэева Тацццяна Уладзімір.
Курніцкая Яна Іванаўна
Кучынская Галіна
Лапіцкая Святлана
Лапкоўская Браніслава Міх.
Левіт Зміцер
Леняцюхіна Ганна
Лісіцкая Вольга Мікалаеўна
Лісіцын Генадзь Дзям'янавіч
Літоўчык Святлана Міхайл.
Лойка Алег Паўлавіч
Лойка Ніна Сцяпанаўна
Лось Дзіяна Іванаўна
Лубянава Тацццяна Віктараўна
Лысова Таіса
Ляшук Валерыя
Макарэвіч Наталля Міхайл.
Маковіч Дзіна
Маліноўскі Віктар Леанідавіч
Марговіч Антон Антонавіч
Мароз Жана Мікалаеўна
Марозава Святлана Валянцін.
Мацкоўская Наталля Васіл.
Мацюкевіч Паўлюк Іванавіч
Мельнік Міхась Іванавіч
Мельнікаў Аляксандр
Мельнікаў Андрэй Міхайл.
Мельнікаў Юрась Сяргеевіч
Меляшкевіч Юры Віктаравіч
Міжурына Раіса Канстанцін.
Мілаш Леакадзія
Мілюць Анатоль Іванавіч
Міхалевіч Мілана Міхайлаўна
Міцкевіч Андрэй Мікалаевіч
Моніч Зміцер
Мухіна Леанарда Станіслав.
Нагін Павел Пятровіч
Несцераў Аляксей
Нікалаевіч (Палонка) Вольга В.
Нікіціна Ліля
Нікіціна Людміла Канстанцін.
Пагрэбіцкі Алег
Падасетнікаў Васіль
Паляшчук Тацццяна
Панюціч Аляксандр
Паражынскі Аляксандр
Паросава Марына
Пашкевіч Валеры Васільевіч
Пракаповіч Мікалай Мікал.
Пракопчык Марына Міхайл.
Прыбыш Павел Іванавіч
Пугаўка Алена
Пугачэўскі Аляксандр Віктар.
Пыльчанка Яўген Аляксандр.
Пячкова Яўгенія Якаўлеўна
Рабушка Анастасія Віктараўна
Радзівон Ірына
Радкюў Генадзь Андрэевіч
Ралько Леанід Міхайлавіч
Раманюк Наталля
Розумаў Анатоль Якаўлевіч
Русецкі Марцін Ігаравіч
Руткоўская Яўгенія Карпаўна
Рыжыкаў Міхаіл
Рэзнікава Настасся Уладзімір.
Сабалеўскі Уладзіслаў Уладзім.
Савіцкая Яніна Іосіфаўна
Савіч Аляксандр Аляксандр.
Сарнацкі Ігар
Севасцюк Марына Леанідаўна
Севасцян Павел
Сергіевіч Дзмітры
Сімакова Рэгіна Іосіфаўна
Сінкевіч Мікалай Сцяпанавіч
Сітнікаў Арцём Сяргеевіч
Скок Віктар Уладзіміравіч
Скрыпнічэнка Георгі Сярг.
Скуратовіч Аркадзь
Смаргун Валянцін Васільевіч
Сойка Мікалай Уладзіміравіч
Солтан Алена Антонаўна
Сталярова Вера
Станкевіч Ларыса Фёдараўна
Стасюкевіч Дзіна
Сурко Анатоль
Сцепулёнак Эма Антонаўна
Сцямпкоўская Хрысціна
Тарасава Святлана Міхайлаўна
Таўгень Антон
Тозік Эдуард
Трафімец Ульяна Святаслав.
Трафімчык Алена Веніямін.
Турцэвіч Паліна Віктараўна
Тыгрыцкая Вольга Аляксан.
Тычына Зміцер Валянцінавіч
Тышко Іван Іванавіч
Уласава Дар'я
Уласевіч Дар'я
Федаровіч Кацярына
Федаровіч Надзея
Фралоў Аляксей Валер'евіч
Фядзюшын Ягор Ягоравіч
Хамінскі Міхась Аляксандр.
Хвошч Галіна
Хляба Глеб Ігаравіч
Царкоў Мікалай Прохаравіч
Цвік Валер Іосіфавіч
Цвяткова Алена Мікалаеўна
Цехановіч Святлана
Цімаховіч Аляксандра Іван.
Цярэшчанка Ігар Барысавіч
Чарнаморцаў Валер
Чаховіч Г. Г.
Чашун Уладзімір
Шнітоўскі Міхась
Шпак-Рытскі Юрась
Шутава Вольга Вікенцьеўна
Шчурко Галіна Аляксандр.
Шчурко Лідзія Іванаўна
Шыла Іван Уладзіміравіч
Шыманчык Святлана Мікал.
Шымкус Рычард Эдуардавіч
Ючкавіч Аксана Станіславаўна
Якаўцава Людміла Уладзімір.
Ялугін Эрнест Васільевіч
Яніцкі Міхаіл Іванавіч
Яскевіч Аляксей Юр'евіч

## Звяртаемся да неабыякавых бацькоў

Вы лічыце, што беларуская мова - гэта модна, сучасна, рэальна? Вы прыхільнік роднай культуры, гісторыі, літаратуры? І ў вас ёсць маленькія дзеткі 2-3 гадоў? І вы жывяце ў Зялёным Лузе? Тады прапануем агульнымі намаганнямі стварыць беларускамоўную групу ў дзіцячым садку.

Запрашаем бацькоў і іх дзетак да стварэння беларускамоўнай групы ў дзіцячым садку на 2016-2017 г. у раёне скрыжавання вуліц Шырокая, Кальцова і Лагойскі тракт г. Менска.

М.т. (029) 638-92-03, Віталь Абакановіч.
E-mail: abakanovich@gmail.com.



# Прэзентацыя ў Магілёве





Магілёўскі пісьменнік, перакладчык, педагог і грамадскі дзеяч Міхась Пятровіч Булавацкі прэзентаваў 22 кастрычніка зборнік сваіх перакладаў вершаў Уладзіміра Высоцкага. У невялічкую, але змястоўную і прыгожа аздобленую кнігу, якая атрымала назву "Пра жыццё, пра волю, пра сябе...", увайшло прыблізна па чатыры дзясяткі арыгіналаў і перакладаў твораў Высоцкага, а апроч іх два вершы - прысвячэнні Булата Акуджавы і Аляксандра Гарадніцкага на смерць паэта (таксама ў перакладзе аўтара зборніка) і прадмова - разважанне спадара Міхася "Мой шлях да Высоцкага". Невялічкі тэкст пра самога Міхася Булавацкага дадаў у канцы кнігі магілёўскі паэт і літаратуразнаўца Сяргей Украінка, які дапамагаў у рэдагаванні гэтага зборніка, ён жа выступіў з прадмовай і на прэзентацыі. Зразумела, не абышлося і без музычнага выканання твораў Высоцкага, што цудоўна зрабіў Васіль Аўраменка, па-свойму перастварыўшы следам за перакладчыкам "Маю цыганскую" і "Вясёлую нябожчыкую". І традыцыйна ўсе, хто набыў кнігу, атрымалі аўтограф аўтара з добрымі пажаданнямі.




*Алесь Сабалеўскі.*
*Фота аўтара.*





# Стэнограф Мікалай Мікалаевіч Сакалоў

## *Да 115-годдзя з дня нараджэння*

Таленавіты савецкі навуковец - стэнограф і хімік-тэхнолаг - Мікалай Мікалаевіч Сакалоў нарадзіўся 27 кастрычніка 1900 г. у г. Краснаслабодску Пензенскай губерні (цяпер - Мардоўская Рэспубліка). Г. зн. сёлета мы адзначаем 115 гадоў з дня яго нараджэння. З вялікай доляй верагоднасці магу сцвярджаць, што гэтая прыведзеная дата нараджэння даецца ў яго анкетных лістках па новым стылі - так зарыентавалі мяне спецыялісты архіўнай справы ў Санкт-Пецярбургу. Напэўна ў мардоўскіх архівах дата нараджэння М. М. Сакалова паказана больш адназначна.

Нарадзіўся Мікалай Мікалаевіч у сям'і святара. У яго анкетах графа "нацыянальнасць, родная мова" адзначае - "рускі, руская". У сям'і ў яго было яшчэ 3 браты і 2 сястры: Анастасія, Уладзімір, Пётр, Барыс і Алена. Пасля заканчэння гімназіі (1918 г.) у 1918 - 19 гадах Мікалай ужо працаваў, ён займаўся пазашкольнай адукацыяй у АНА ў г. Краснаслабодску. Таксама загадваў Народным домам і бібліятэкай.

У 1919 - 26 гг. Мікалай вучыўся на хімічным аддзяленні фізіка-матэматычнага факультэта І Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта па спецыяльнасці "фізічная хімія". Падчас вучобы ўжо быў чальцом рэдкалегіі часопіса "Пытанні стэнаграфіі" (у 1923 - 24 гадах).

У 1926 - 30 гг. Мікалай Мікалаевіч быў выкладчыкам на розных курсах г. Масквы. Затым у 1930 годзе ён паступае ў УЭІ (Усесаюзны электратэхнічны інстытут), дзе прапрацаваў навуковым супрацоўнікам да 1937 года ўлучна. Выканаў шэраг прац па аксіднай ізаляцыі, гальванічных элементах, па іншых тэмах.

У 1937 - 41 гг. па ўказанні Вярхоўнага Савета СССР Мікалай Мікалаевіч працаваў у Інстытуце мовы і пісьменнасці АН СССР старэйшым навуковым супрацоўнікам па стэнаграфіі. А ў 1941 - 47 гадах - ён ізноў навуковы супрацоўнік УЭІ. Ён вярнуўся туды з пачаткам вайны. Працаваў па лакакампаўндах і смолах, па сінтэзе крэмніеарганічных рэчываў (1940-я гады). У войску М.М. Сакалоў не служыў. У філіяле Расійскага Дзяржархіва навукова-тэхнічнай дакументацыі ў г. Самара ст. навуковы супрацоўнік М.М. Сакалоў значыцца аўтарам і кіраўніком навукова-даследчых прац УЭІ па кампаўндах, электраізаляцыі, эмальлаках і інш. - паводле спісу асноўных прац інстытута за 1941 - 67 гг. Мікалай Мікалаевіч дзясяткі гадоў прапрацаваў у УЭІ імя В. І. Леніна, але я (*П.А.*) не маю магчымасці паказаць дакументальна ўвесь яго працоўны стаж у гэтым інстытуце.

М.М. Сакалоў добра ведаў матэматыку, біямеханіку, тэорыю ваганняў. Ён - выдатны дзеяч айчыннай стэнаграфіі, машынапісу і тэорыі пісьма. Аўтар, стваральнік, тэарэтык і практык сістэмы ДзАСС (Дзяржаўнай адзінай сістэмы стэнаграфіі, 1933 г.), якая была ўведзена ў РСФСР пастановай УЦВК РСФСР. А затым і іншыя саюзныя рэспублікі прыстасавалі гэтую сістэму да ладу сваёй мовы і пісьма. Стваральнік курсаў ДзЗНС (Курсаў дзяржаўнага завочнага навучання стэнаграфіі, 1941 г.). Адзіны ў свеце лаўрэат прэміі Габельсбергера (у 1965 г. на 8-м з'ездзе нямецкіх стэнаграфістаў у Магдэбургу ён атрымаў медаль Габельсбергера). Выбітны тэарэтык стэнаграфіі, бліскучы практык-стэнограф. Ён быў адным са стэнаграфістаў Нюрнбергскага працэсу.



*Некалькі слоў - пра саму стэнаграфію. У 1933 годзе савецкім урадам было прынята рашэнне пра Дзяржаўную адзіную сістэму стэнаграфіі. Яе вывучалі ў школах і ВНУ. Пасля вайны 1939 - 1945 гг. стэнаграфію, як правіла, выкладалі на курсах, у прыватнасці пры Дамах афіцэраў, а таксама на завочных курсах. У паваенныя гады савецкая адзіная сістэма стэнаграфіі была распаўсюджана на большасць краін сацыялістычнага лагера. Да прыкладу, у 1976 г. сістэма Сакалова была прынята ў Польшчы. У СССР адзіная сістэма існавала да 1991 г. Пасля распаду СССР у новых самастойных краінах стэнаграфія пайшла сваімі шляхамі.*

*Заканадаўцамі моды хуткапісу ў Беларусі сталі спецыялісты, блізкія да Белдзяржуніверсітэта, і ў першую чаргу Ніна Іванаўна Кругова. У аснове беларускай рускамоўнай сістэмы стэнаграфіі ляжыць усё тая ж сістэма Сакалова. У канцы XX - пачатку XXI стагоддзя для запісу беларускамоўных тэкстаў ужывалася руская сістэма стэнаграфіі. Уласна беларуская стэнаграфічная сістэма на аснове сістэмы Сакалова распрацавана С.В. Суднікам і выкладаецца ў Беларусі з 2004 года. У 2009 г. Выдавецкі дом ТБМ у Лідзе выдаў навучальны дапаможнік С.В. Судніка "Стэнаграфія", 224 ст., навуковы рэдактар доктар філалалагічных навук П.У. Сцяцко.*

Не магу даказаць, але даволі цвёрда мяркую, што М.М. Сакалоў-стэнограф пераклаў на рускую мову чэшскую кнігу Чэсіміра Лаўкоткі "Развіццё пісьма" (1950 г.).

Мікалай Мікалаевіч у патрэбнай ступені быў знаёмы з англійскай, нямецкай і французскай мовамі.

Доктар хімічных навук, прафесар. Меў досыць друкаваных прац і аўтарскіх сведчанняў у вобласці хіміі і тэхналогіі палімераў, каталізу. Адначасова цікавіўся пытаннямі рацыяналізацыі пісьмовай працы.

М.М. Сокалаў быў і доктарам тэхнічных навук, спецыялістам па ізаляцыйных матэрыялах для электратэхнікі. Не дарэмна доўгі час працаваў ва Ўсесаюзным электратэхнічным інстытуце. Ён пражыў больш за 80 гадоў. Праўда, год яго смерці мне (*П.А.*) устанавіць не ўдалося (у 1984 г. ён яшчэ быў жывы).

Таленавіты навуковец узнагароджаны ордэнамі "Знак Пашаны" (1947 г.) і Працоўнага Чырвонага сцяга (1950 г.), медалём "За доблесную працу" і інш.

Жонка - Кацярына Сцяпанаўна, працавала ў Міністэрстве замежных спраў, стэнограф-практык высокай кваліфікацыі. Дзяцей, здаецца, у іх не было. У жыцці М.М. Сакалоў быў дзіўна сціплым чалавекам, тыповым інтэлігентам дарэвалюцыйнай "закваскі".

Некаторая інфармацыя пра М. М. Сакалова-стэнографа дадзена ў артыкуле "Стэнаграфія і яе рыцар" (гл. часопіс "Навука і жыццё", № 9 - 2007 г., с. 46 - 48). У XX стагоддзі былі яшчэ два майстры слова, масквічы Мікалаі Мікалаевічы Сакаловы - філолаг (1875 - 1923), родам з г. Трубчэўска і паэт (1916 - 1976), выхадзец г. Кастрамы.

Уся выкладзеная ў артыкуле інфармацыя сабрана з зусім розных крыніц. Таму аўтар (*П.А.*) будзе ўдзячны за любыя заўвагі, выпраўленні і істотныя дадаткі да ўсяго вышэйпрыведзенага матэрыялу.

***П.А. Амбрасовіч**,*
*сябар Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ) у г. Санкт-Пецярбургу.*
*ambrasovitsh@mail.ru.*

# Калі ў дзяржавы няма грошай на адну беларускую літару, то адкуль жа яны возьмуцца на ўсю беларускую мову?

У Полацку прыходзіць у занядбанне помнік, прысвечаны літары "Ў". Ён знаходзіцца ў самым цэнтры горада, на праспекце Францішка Скарыны.



На помніку адлітыя ў метале радкі Рыгора Барадуліна: *"Ад Еўфрасінні, ад Скарыны, Ад Полацка пачаўся свет"*. Многія літары на скульптурнай кампазіцыі зараз пашкоджаны.

Гэты полацкі помнік - адзіны ў нашай краіне, што нагадвае пра ўнікальную літару "Ў", якая сустракаецца толькі ў беларускім алфавіце. Усталяваны ў 2003 годзе, падчас святкавання Дня беларускага пісьменства. Скульптура зроблена ў выглядзе стэлы, на якой змешчаны рэльефныя малюнкі літары "Ў". Помнік адначасова з'яўляецца і сонечным гадзіннікам. Аўтар кампазіцыі - беларускі скульптар Аляксандр Фінскі.



Старшыня ТБМ звярнуўся ў Міністэрства культуры і атрымаў адпаведныя адказы, сутнасць якіх: перавесці стрэлкі і пажаліцца, што грошай няма.

| МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ |
|---|---|
| Праспект Пераможцаў, 11, 220004, г. Мінск | Проспект Победителей, 11, 220004, г. Минск |
| Тэлефон (017) 203 75 74 Факс (017) 203 90 45 | Телефон (017) 203 75 74 Факс (017) 203 90 45 |
| e-mail: ministerstvo@kultura.by | e-mail: ministerstvo@kultura.by |

22.09.2015 № 01-20/10/ЮЛ
На № 171 ад 18.09.2015

Старшыні грамадскага аб'яднання "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" Трусаву А.А.

Аб рэканструкцыі помніка

Паважаны Алег Анатольевіч!

Міністэрства культуры інфармуе, што згодна з падпунктам 1.2 пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 15 кастрычніка 2007 г. № 498 "О дополнительных мерах по работе с обращениями граждан" Ваш зварот, які паступіў у адрас Міністэрства культуры, накіраваны ў Полацкі раённы выканаўчы камітэт для разгляду і падрыхтоўкі адказу.

З павагай,
Намеснік Міністра А.А. Яцко.

| ПОЛАЦКІ РАЁННЫ ВЫКАНАЎЧЫ КАМІТЭТ | ПОЛОЦКИЙ РАЙОННЫЙ ИСПОЛНИТЕЛЬНЫЙ КОМИТЕТ |
|---|---|
| вул. Л. Талстога, д. 6 211400, г. Полацк Віцебская вобласці | ул. Л. Толстого, д. 6 211400, г. Полоцк Витебской области |
| Тэл.:(8-0214)42 35 22, факс(8-0214)42 83 16 E-mail: Polotsk-RIK@mail.ru | Тел.:(8-0214)42 35 22, факс(8-0214)42 83 16 E-mail: Polotsk-RIK@mail.ru |

15.10.2015 № 16/02-07
На № ______ ад ______

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны"

Полацкі раённы выканаўчы камітэт па пытанні рэстаўрацыі помніка адной з літар беларускага алфавіта "Ў" паведамляе. Помнік знаходзіцца на балансе КУП "ЖКГ г. Полацка".

У сувязі з адсутнасцю фінансавых сродкаў у бягучым годзе выканаць работы па рэстаўрацыі помніка не ўяўляецца магчымым. Полацкім раённым выканаўчым камітэтам накіравана хадайніцтва ва Упраўленне жыллёва-камунальнай гаспадаркі Віцебскага аблвыканкама з просьбай прадугледзець у бюджэце на 2016 год грашовыя сродкі на ўказанныя вышэй работы.

Рэстаўрацыю планууецца правесці ў 2016 годзе пры ўмове выдзялення фінансавых сродкаў на названыя мэты.

У адпаведнасці з арт. 20 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб зваротах грамадзян і юрыдычных асоб" ад 18 ліпеня 2011 г. № 300-З дадзены адказ можа быць абскарджаны ў Віцебскі аблвыканкам.

Намеснік старшыні А.М. Міхалевіч.

# Беларускі нацыянальны касцюм

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

З XIX ст. на вёсцы і ў горадзе былі таксама папулярнымі вязаныя галаўныя ўборы з ільняной ці ваўнянай пражы, часта ў форме каўпака. Вязаць іх было зручна, як доўгую панчоху, краі якой адгіналіся некалькі разоў. У другой палове XX ст. яны значна распаўсюдзіліся.



Пінскія сяляне. Мастак Ян Лявіцкі, 1840-ыя гг.

Сёння галаўныя ўборы селяніна і гараджаніна амаль не адрозніваюцца.

### Абутак

Абутак складае важную частку касцюма і абараняе ногі ад уздзеяння холаду, бруду, вільгаці і механічных пашкоджванняў вострымі камянямі, калючкамі, каранямі дрэў, якія выступаюць над паверхняй глебы.

Якасць і матэрыялы абутку залежалі ад яго канкрэтнага прызначэння, стану эканамічнага і культурнага развіцця грамадства, кліматычных умоў, тэхнічнага прыёму вырабу і мясцовых звычак. Самым старажытным відам абутку на тэрыторыі Беларусі былі плеценыя з лыка, ліпавай і вязавай кары лапці. Скураны абутак сустракаўся ў тую пару надзвычай рэдка, што тлумачыцца тагачаснымі ўяўленнямі сялян: калі памерлага пахаваць у скураным абутку, то жывёла, са скуры якой зроблены абутак, на тым свеце будзе турбаваць нябожчыка, патрабуючы назад сваю скуру.

**Лапці** як від абутку вясковага насельніцтва сустракаюцца ў XVI-XVII стст. У адрозненне ад вясковага насельніцтва, у шырокім ужытку гараджан ВКЛ былі розныя віды скуранога абутку - са скуры мясцовай буйной і дробнай рагатай жывёлы: кароў, цялят, авечак і коз. На падэшвы часцей за ўсё ішла скура быкоў і спінная частка каровіных скур. Старажытны працэс вырабу скур быў такім: скуру мачылі ў рацэ або чанах у росчыне вапны ці попелу, а пасля пры дапамозе нажоў-тупікаў з вонкавай паверхні скуры выдалялі поўсць, а з ніжняга боку здымалі мяздру.

Найбольш старажытным і простым тыпам скуранога абутку гараджан у X-XIII стст. былі **поршні**. Поршні выраблялiся з аднаго кавалка скуры, краі якога загіналіся вакол ступні, ствараючы галоўку, заднік і бакі. Для замацавання поршняў на нагах рабілі скразныя прорэзі па ўсім перыметры загатоўкі, праз якія працягваліся раменныя аборы. З мэтай мастацкага аздаблення на насках поршняў часам рабілі прорэзі, у якія ўпляталі скураныя раменьчыкі, і стваралі ажурныя ўзоры са шнуркамі пры завязцы. У гутарковай мове гараджан поршні звычайна называліся "лапцямі".

Самым распаўсюджаным абуткам сялян і мяшчан у XI-XIII стст. былі **чаравікі**, якія мелі борцікі (берцы), што закрывалі костачку. Паводле крою яны падзяляліся на два віды: з трохкутным выразам на задніку і з закругленым наскам і пятой. Верх чаравікаў выкройвалі з аднаго кавалка скуры. Да яго прышывалі падэшвы з такога ж матэрыялу пры дапамозе ільняных навасканых нітак. Увесь абутак быў мяккі і вываратны. Праз прорэзі ніжэй костачак чаравікі сцягвалі раменьчыкам, які завязваўся ззаду.

У X-XIII стст. **туфлі** нагадвалі сучасныя чаравікі, толькі з нізкімі борцікамі, і ўпрыгожваліся ажурным пераплеценнем скураных раменьчыкаў. Кароткія чаравікі і паўчаравікі мелі вышыню халяў не больш за 20 см.

**Боты** гарадскіх жыхароў XII-XIII стст. былі мяккім абуткам з халявамі і без абцасаў. Яны выраблялiся мясцовымі рамеснікамі вываратным спосабам і былі двух тыпаў: выцяжныя без перадоў і з прышыўнымі перадамі. У першым выпадку боты сшывалі з дзвюх загатовак, адна з якіх у пад'ёме нагі плаўна пераходзіла ў галоўку бота і складала з ёю адзінае цэлае. Да халяў у такіх ботаў прышывалі перады і трапецападобныя заднікі. Падэшвы былі сіметрычныя, амаль авальныя і прымацоўваліся да верху абутку вываратным швом. Толькі зрэдку падэшва злучалася з нарыхтоўкай. Пасля выварочвання ў такіх ботах па перыметры падэшвы атрымоўваўся бардзюр на ўзор ранта, які засцерагаў верх абутку ад сутыкнення з зямлёй. Абцасаў у ботах не было, яны ўвайшлі ва ўжытак гараджан толькі з XIV ст.

Абцасы ботаў XIV-XV стст. былі нізкія і займалі толькі адну трэцюю пяты і звычайна рабіліся наборнымі, з некалькіх слаёў скуры, і мацаваліся да падэшвы металічнымі падкоўкамі, у якіх былі шыпы і адтуліны для цвікоў. На працягу XVI-XVII стст. абцасы паступова сталі больш шырокімі, ахопліваючы спачатку палову, а потым усю пятку. У XVIII ст. яны набылі завужаную да нізу форму. Звычайным стаў і драўляны, абцягнуты скурай і завужаны ўніз абцас, вышынёй да 5 см. Да іх цвікамі прыбіваліся плоскія дугападобныя падкоўкі.



*Шляхціц у ботах у вобразе біблейскага вешчуна. Фрагмент абраза "Пакланенне вешчуноў" (каля 1514 г.) з Петрапаўлаўскага касцёла ў вёсцы Дрысвяты*



*Крыштаф Весялоўскі (?-1637) у дарагіх жоўтых скураных ботах. Партрэт пачатку XVII ст.*



*Граф Януш Тышкевіч (1590-1649) у зімовай шапцы і дарагіх жоўтых скураных ботах. Партрэт XVII ст.*



*Гетман Міхал Казімір Агінскі (1730-1800) у высокіх чорных ботах*

У другой палове XVI - першай палове XVII ст. сярод багатай шляхты і вярхушкі гараджан становяцца папулярнымі скураныя паўботкі, якія шылі з саф'яну жоўтага колеру з вылажэннем зверху на халяўцы.

***(Працяг у наст нумары.)***





# Урокі гісторыі

**Лёс рэпрэсаванага літаратурнага крытыка, загубленага 29 кастрычніка 1937 года, і яго дачкі выклікае глыбокі роздум**

Былая выкладчыца гісторыі Іна Якаўлеўна Бранштэйн жыве ў Менску. Аднойчы скульптар Заір Азгур запрасіў яе ў сваю майстэрню. Ён вырашыў стварыць бюст пісьменніка Якава Бранштэйна, з якім быў знаёмы ў 30-тыя гады, і паклікаў да сябе Іну Якаўлеўну, якая вельмі падобна на свайго бацьку. Па яе рысах і архіўных фатаздымках скульптар зрабіў вельмі ўдалы бюст з бронзы. Бюст знаходзіўся ў музеі, цяпер ён захоўваецца ў яе дома.



Якаў Анатольевіч Бранштэйн быў прафесарам Менскага педагагічнага ўніверсітэта, літаратуразнаўцам, даследчыкам савецкай, беларускай і габрэйскай літаратуры. Ён быў сакратаром Саюза беларускіх пісьменнікаў, сябраваў з паэтамі і празаікамі тых часоў.

Якаў Бранштэйн нарадзіўся 11 лістапада ў Бельску-Падляшскім у сям'і рабочага. З 15 гадоў ён працаваў "хлопчыкам для паслуг", потым рахункаводам. У 1919-21 гадах удзельнічаў у баях на Туркестанскім фронце, працаваў у газеце " Орловская правда". У 1925 годзе Якаў скончыў 1-шы Маскоўскі універсітэт, вучыўся ў Камакадэміі, скончыў аспірантуру пры Менскім дзяржаўным універсітэце. З 1930 года Якаў Бранштэйн быў выкладчыкам Менскага педагагічнага інстытута і навуковым супрацоўнікам інстытута літаратуры і мастацтва АН БССР. З 1934 - адказным сакратаром Саюза пісьменнікаў Беларусі. Ён пісаў на ідыш і на беларускай мове. Выдаў зборнік літаратурна-крытычных артыкулаў "Атака". У калектыўных зборніках ён друкаваў артыкулы пра творчасць А. Пушкіна, Я. Купалы, Я. Маўра, А. Александровіча, М. Кульбака, І. Харыка. Звесткі пра яго знаходзяцца ў даведніку "Беларускія пісьменнікі" і ў сямейным архіве Іны Якаўлеўны Бранштэйн.

Якаў Анатольевіч быў жанаты з Марыяй Мінкінай і жылі яны ў Менску. У пачатку і ў сярэдзіне 30-тых гадоў у іх нарадзіліся двое дзяцей - Іна і Рамэн. Інтэлігентная, мудрая і ветлівая Іна Якаўлеўна прыпамінае, што ў 1934 годзе бацька вазіў іх з мамай на з'езд пісьменнікаў СССР, у якім браў удзел Максім Горкі. Тады ёй было 2 годзікі. Драматычная гісторыя краіны з сумнымі і патаемнымі старонкамі выразна адбілася на яе лёсе. Калі яна стала настаўніцай і надышлі спрыяльныя часы, яна даследвала з вучнямі тэму рэпрэсій, тэму Халакоста.



Прафесар Бранштэйн быў рэпрэсаваны ў 1937 годзе. Ён быў абвінавачаны ў контрэвалюцыйнай дзейнасці і расстраляны 29 кастрычніка 1937 года. *"Маму арыштавалі ў той жа дзень, яна знаходзілася ў турме на Валадарскага разам з іншымі жонкамі арыштаваных дзяржаўных дзеячаў і пісьменнікаў,* - узгадвае дачка пісьменніка. - *Жанчыны не разумелі, што адбываецца, яны вырашылі, што ў краіне здарыўся фашысцкі пераварот. Але калі пачулі гукі кастрычніцкай дэманстрацыі на вуліцы, то супакоіліся, і думалі, што ўсё хутка высветліцца. Але праз некаторы час іх накіравалі ў жаночы лагер, а дзяцей аддалі ў дзіцячыя дамы. Прыбіральшчыца Люба, дзяўчына 16-ці гадоў, прыйшла, як звычайна, у кватэру і не ўбачыла гаспадароў. Яна не пабаялася звярнуцца ў НКУС у пошуках Іны і Рамэна. "Дзе дзеці Бранштэйнаў? "- запытала яна. -" Ідзі адсюль, дзяўчынка, а то і ты туды патрапіш, калі будзеш задаваць шмат пытанняў!"*

Марыю Мінкіну выслалі ў Акмолінскі лагер жонак здраднікаў радзімы ў Казахстан на 8 гадоў (АЛЖИР).Там яна пазнаёмілася з маці Булата Акуджавы - Ашхен. Марыя пасвіла авечак з іншымі жанчынамі. Яны баяліся, каб воўк не сцягнуў авечку - за гэта маглі павялічыць лагерны тэрмін.



Дачку і сына спачатку аддалі ў дзіцячы дом. Але Марыя паспела напісаць ліст сваёй сястры ў Ленінград, пра тое, што з імі здарылася. Пакуль іх везлі ў Казахстан, яна праз акно шпурнула ліст з адрасам на перон, калі цягнік спыніўся на станцыі. Ліст патрапіў у рукі надзейнаму чалавеку, які, прачытаўшы, паклаў яго ў канверт і даслаў па адрасе. Сёстры атрымалі паведамленне, прыехалі ў Менск і ўзялі дзяцей на выхаванне ў свае сем'і.

Іну спачатку прыняла сястра маці, потым сястра бацькі. Яе ўзялі на выхаванне дзядзя Марк і цёця Рахіль, вялікадушна замянілі ёй бацькоў. Была такая прымаўка: " Дзе вы бачылі габрэйскіх дзяцей у дзіцячым доме?!" Дзядзька Марк быў выдатным інжынерам і адказным чалавекам, але ў яго было хворае сэрца, і на вайну яго не ўзялі. Яго заяву на ўступленне ў партыю перакрэслілі, бо *"ён утаіў, што прыняў у сваю сям'ю пяцігадовую дачку ворага народа".* У 1939 годзе дзяўчынка пайшла ў школу ў Харкаве. Ёй падабаліся творы Лесі Украінкі, Міхаіла Кацюбінскага.У 40-ыя гады сям'я жыла ў Кемераве, у Кузбасе. Дзядзя і цёця гадавалі Іначку да 15 гадоў, яна наведвала школу і добра вучылася. У 1946 года яе мама Марыя Мінкіна была вызвалена і вярнулася да родных. З 1946 года яна жыла ў Калінінскай вобласці, на вёсцы, у горадзе нельга было сяліцца. Матуля сустрэлася з дачкой, яны абмяркоўвалі цяпер усё па-даросламу.

У 1953 годзе Якаў Бранштэйн быў рэабілітаваны. У 30-тыя гады ён сябраваў з Ізі Харыкам і Міхасём Лыньковым. Удава Ізі Харыка Дзіна здолела пранесці праз вайну і захаваць асобнік кнігі мужа з прадмовай Якава Бранштэйна. Большасць кніг рэпрэсаванага прафесара была знішчана. Міхась Лынькоў прысвяціў артыкул свайму сябру, літаратурнаму крытыку. Іна Якаўлеўна памятае да вайны маленькага сына Міхася Лынькова, якога звалі Марк. Сябрам Якава Анатольевіча быў таксама і Гірш Рэлес. Паэт прыходзіў у 80-тыя гады ў габрэйскую арганізацыю і цёпла вітаўся з дачкой сябра.

### Пані настаўніца

Дачка прафесара, Іна Якаўлеўна Бранштэйн, у 1954 годзе скончыла гістарычны факультэт Харкаўскага ўніверсітэта з чырвоным дыпломам. Ёй прапаноўвалі ісці ў аспірантуру, але яна марыла быць вясковай настаўніцай.

Пасля пераезду на Беларусь яна некаторы час настаўнічала ў Жупранах, памятае касцёл і магілу Францішка Багушэвіча. Мясцовыя жыхары звярталіся да яе: "Пані настаўніца". Дзяўчаты запрашалі яе ў лес па грыбы, мясціны былі прыгожыя. Жанчыны ішлі босыя па мястэчку, бліжэй да касцёла абувалі пантофлі. Яшчэ не стары ўдзельнік вайны, выхаваны на польскі манер, падаваў ёй ручку пасля піянерскага сходу на вачах ў вучняў і вельмі яе збянтэжыў! Потым яна пераехала з маці ў Менск.

У яе фенаменальная памяць на гістарычныя даты і вершы. Яна беспамылкова ўзгадвае гады княжання ў ВКЛ вялікага князя Альгерда. Цытуе Пушкіна, Лермантава, Блока, Гейнэ. Іна Якаўлеўна піша вершы, у якіх суцяшае сябе і іншых у розных жыццёвых выпадках, нягодах і хваробах, падтрымлівае сваімі "псіхалагічнымі лекамі".

За 50 гадоў працы ў школе яна выхавала сотні вучняў. Дзяўчаты пісалі навуковыя працы па гісторыі, выступалі на раённых конкурсах. Хлопцы выконвалі тэатралізаваныя інсцэніроўкі гістарычных эпізодаў. Многім яна паспрыяла ў паступленні ў Белдзяржуніверсітэт на гістфак. Яна натхняла іх на поспех, верыла ў іх здольнасці і добрыя чалавечыя рысы. Яна падарожнічала з імі па літаратурных мясцінах. Самыя любімыя яе вучні прыходзяць да яе на кожнае свята, пры неабходнасці падвозяць на машыне, дзеляцца сваім навінамі.

Адзін з вучняў Іны Якаўлеўны, Аляксандр Мойскі скончыў філфак, вучыцца ў аспірантуры і працуе ў БДПУ імя Танка, піша дысертацыю. Алесь некалькі гадоў таму выдаў зборнік вершаў " Пялёстак міру".

Яна сябруе з былымі вязнямі і праведнікамі народаў свету, збірае літаратурныя ўспаміны, гістарычныя сведчанні, артыкулы Леаніда Маракова, Ігара Кузняцова пра гады рэпрэсій.

У Казахстане ў 90-тыя гады мясцовыя жыхары стварылі музей Акмолінскага лагера жонак здраднікаў радзімы. Дырэктарка музея прыязджала да Іны Якаўлеўны разам з жонкай пасла Казахстана на Беларусі. Іна Бранштэйн перадала ў музей кашулю, якую мама вышывала ёй у лагеры.

### Памяць вучняў

Аднойчы, зімовым вечарам Іне Якаўлеўне патэлефанавалі. "Гэта Якаў, ваш вучань, - назваўся малады чалавек. - Я прыехаў з Ізраіля. Дазвольце мне вас наведаць на наступным тыдні." "Калі ласка, прыходзьце", - не раздумваючы адказала былая настаўніца. Пакуль на пліце варыўся суп, не было часу падрабязна распытваць, хто ён такі, з якога года выпуску.

Потым яна завагалася. Прозвішча не прыпаміналася. Голас быз незнаёмы. А раптам нехта вырашыў яе разыграць, розыгрыш можа быць небяспечным! Параіўшыся з сяброўкай, яна запрасіла суседа на гадзіну візіту.

Малады чалавек , як аказалася, сапраўды, быў яе вучнем да 2001 года. Ён скончыў дзевяць класаў і паступіў у музычную вучэльню, яна ж была класнай кіраўніцай да 10 класа, таму ён ёй не прыпамінаўся. Якаў стаў музыкантам, цяпер жыве ў Ізраілі і выступае ў аркестры. Свой візіт ён прымеркаваў да свята Ханукі. Ён прынёс настаўніцы традыцыйны пачастунак, яны запалілі сямісвечнік і ў прыемнай размове правялі вечар…

Яе сын Якаў Бунімовіч быў тонкай асобай, пісаў вершы. Ён скончыў Менскі радыётэхнічны інстытут і Маскоўскі дзяржаўны інстытут кінематаграфіі. У маладым узросце ён нечакана пайшоў з жыцця…

### Вершы, якія суцяшаюць

Дваццаць гадоў таму, страціўшы сына, а праз два гады і мужа, Іна Якаўлеўна моцна хварэла. Каб падтрымаць сябе, яна прыдумала псіхалагічныя таблеткі для сябе і людзей сталага веку - пачала пісаць вершы. Просценькія вершыкі вучаць бачыць пазітыўнае ў кожным моманце жыцця, цаніць і берагчы яго. Вучаніца дапамагла выдаць 2 кніжачкі вершаў Іны Якаўлеўны. Усе асобнікі хутка разышліся, людзі пачалі перапісваць іх ад рукі і вучыць на памяць, бо яны надаюць добрага настрою і любові да жыцця. Вершы, распаўсюджаныя праз Інтэрнет, спадабаліся чытачам на розных кантынетах. Літаратурныя вечарыны па іх праводзіліся ў Менску і Пецярбургу, у ЗША і ў Аўстраліі, іх пераклалі на французскую мову. "Усе паэты пішуць пра маладых і прыгожых, але ніхто не піша пра старых, таму я вырашыла прысвяціць свае радкі тым, хто пераадольвае хваробы і самоту, неўладкаваны быт і проста радуецца надыходу сонейка і цяпла, прыгажосці прыроды і дабрыні сяброў,"- кажа дачка беларускага пісьменніка.



*Эла Дзвінская.*

**На здымках:**

*1. Якаў Бранштэйн і Марыя Мінкіна.*

*2. Бюст Якава Бранштэйна.*

*3. Цёця Рахіль.*

*4. Іна Якаўлеўна Бранштэйн з сяброўкай.*

# Памёр Раман Лубкіўскі, украінскі пісьменнік і дыпламат



Ён пайшоў з жыцця 23 кастрычніка ў Львове на 75-ым годзе жыцця. Раман Лубкіўскі - вядомы паэт і перакладчык, былы амбасадар Украіны ў Чэхаславаччыне і Чэхіі.

Дзякуючы яму на ўкраінскай мове загучалі вершы Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Міхася Чарота, Уладзіміра Дубоўкі, Міхася Машары, Піліпа Пестрака, Ларысы Геніюш, Васіля Зуёнка, Мар'яна Дуксы, Паўлюка Багрыма, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Янкі Лучыны, Пімена Панчанкі.

Раман Лубкіўскі нарадзіўся 10 жніўня 1941 у сяле Астравок Цярнопальскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Львоўскага Нацыянальнага ўніверсітэта. Працаваў намеснікам галоўнага рэдактара літаратурнага часопіса "Жовтень".

Пісьменьнік быў народным дэпутатам першага дэмакратычнага склікання Вярхоўнай Рады, таксама ў 1990-х працаваў амбасадарам Украіны ў Чэхіі і Славаччыне, дзяржслужбоўцам у абласной адміністрацыі. Рамана Лубкіўскі з'яўляецца лаўрэатам Шаўчэнкаўскай прэміі.

11 гадоў таму ў інтэрвію беларускай службе Радыё Свабода ён сказаў:

- Як чалавек, які глыбока любіць і шануе беларускую культуру, паэзію, лічу, што магутным гімнам быў бы "А хто там ідзе?" Вы ўяўляеце сабе, калі гэта пакласці на музыку? Які там можа быць харал, які матыў аб'яднання! А хто там ідзе? - Беларусы! Я думаю, што беларусы пойдуць сваёй беларускай дарогай.

Вось што паведамляе пра абставіны смерці Рамана Лубкіўскага Сяргей Панізьнік:

- Памёр раптоўна. Ехаў з вёскі, дзе меў дом і там творча працаваў і адпачываў. Памёр у дарозе ў Львоў. Для мяне гэта асабліва ўдар. Львоў разламаўся. Гэта быў бліскучы перакладчык, паэт, грамадскі дзеяч. З пісьменнікаў няма нікога, хто мог бы стаць на абарону дзяржаўных і грамадскіх спраў.

Раман Лубкіўскі, у ліку іншых украінскіх інтэлектуалаў (сярод якіх Алесь Ганчар, Дмытро Паўлычка, Вячаслаў Чарнавіл, Міхайла Горынь, Іван Драч) вясной 1995 года звярнуліся да беларускага народа з адкрытым лістом, у якім заклікаў не галасаваць на прапанаваным Лукашэнкам рэферэндуме за змену статусу беларускай мовы.

У адказ Васіль Быкаў, Рыгор Барадулін і Сяргей Законнікаў, ужо пасля рэферэндуму, накіравалі аўтарам звароту свой ліст, дзе пісалі:

*"Тое, чаго вы і мы засцерагаліся, здарылася. Здарылася бяда, найвялікшае ліха ў гісторыі - Беларусь увачавідкі страчвае найвялікшую заваёву сваёй гісторыі - потым і крывёю заваяваную дзяржаўнасць... Вельмі шкада і трагічна, што беларусы не спраўдзілі вашых спадзяванняў і тым аб'ектыўна замарудзілі нястомную хаду чалавецтва да праўды і справядлівасці. Да Бога і лепшай Будучыні. Але прыйдзе час, загляне сонца і ў наша ваконца".*

Лубкіўскі належыў да ліку ўкраінскіх сяброў Быкава, і не здарма менавіта ягонымі словамі складальнік кнігі "Наш Быкаў" Генадзь Бураўкін завяршыў зборнік успамінаў: "У кнізе Васіля Быкава "Доўгая дарога дадому" чытаю: *"Наша літаратура быццам бы па крысе выкараскваецца з таго інтэлектуальнага гулагу, з якога яшчэ належыць выбрацца нацыі".* Вось пазіцыя сапраўднага дысідэнта, які так і не стаў фальшывым "прарокам", а пайшоў у выгнанне, у пакуты сярод чужаземцаў, але адстаяў сваё сумленнае імя, свой зацкаваны народ, сваю родную зняважаную мову... Васіль сваёй душой падсвечваў мне і майму сыну Мар'яну. Не, такі свяціў! І гэтага святла нам досыць, каб не спатыкнуцца ў дарозе".

***Радыё Свабода.***

# Родная мова - цудоўны скарб народа

І данесці гэты скарб да маладога пакалення - задача бацькоў, школы, шырокай грамадскасці...

Родную мову патрэбна ведаць, вывучаць, любіць і шанаваць. Хачу звярнуць увагу чытача на простае, прыгожае, цікавае і перакананальнае выказванне Генрыха Далідовіча, паэта, пісьменніка: "Народная мова багатая, гнуткая, трэба толькі ведаць яе, вывучаць. Усё на ёй можна сказаць. Самыя далікатныя і тонкія пачуцці".

На жаль, зусім супрацьлеглая думка на конт роднай мовы ў дзяржаўных кіраўнікоў. І гэтая думка міжвольна перадаецца ўсім. Парадаксальна-трагічную ролю ў лёсе роднай мовы, яе ўжывання ва ўсіх сферах дзяржаўнага жыцця, адыгрывае ўлада краіны.

Цяжкія часы перажывае наша мова. Але яна жыве, выжывае.

На гэты раз я вырашыў паглядзець, як жыве родная мова ў бібліятэчнай сістэме раёна. З гэтай мэтай я наведаў некаторыя сельскія бібліятэкі і раённую бібліятэку ў Пінску. І якое ж ураданне? Яно супярэчлівае. З аднаго боку, калі паглядзець, то нешта робіцца, каб данесці родную мову да нешматлікага чытача, да маладога пакалення беларусаў. З гэтай мэтай у бібліятэках аформлены стэнды, кніжныя паліцы-выставы, зрэдку праводзяцца вечарыны, гасцёўні, сустрэчы з носьбітамі роднай мовы: паэтамі, пісьменнікамі, мастакамі, дзеячамі культуры... Гэта добра. Але... Але ўсё гэта губляе сэнс, бо самі працаўнікі бібліятэк роднай мовай у сваёй рабоце не карыстаюцца. Што ўжо казаць пра паўсядзённае жыццё.

Тут неабходна нагадаць, што ў аснове нацыянальнай культуры ляжыць родная мова. Для нас, беларусаў - гэта беларуская мова. А вось ёю большасць бібліятэчных работнікаў валодае дрэнна. Дык як жа мы данясём цудоўны скарб - родную мову да чытача? Хутчэй такімі аднослімі працаўнікоў культуры да роднай мовы, мы яе знішчаем. Калі беларускай мовы ў падмурку нацыянальнай культуры няма, то гэты падмурак разбураецца, а разам з ім гіне і нацыянальная культура беларусаў. Знікае мова, гіне культура, памірае нацыя.

Што трэба рабіць у такім становішчы? Адказ адзін. Трэба неадкладна ўсе намаганні людзей, якія зацікаўлены праблемай уратавання нацыі, кінуць на выратаванне роднай мовы, нацыянальнай культуры, нацыі. Калі мы хочам быць народам, звацца нацыяй беларусаў.

І пачынаць трэба з сябе. Кожны бібліятэкар павінен загаварыць па-беларуску і гэтым паказаць чытачу, як трэба любіць і шанаваць родную мову, беларускую культуру, нацыянальныя традыцыі. Тады будзе вынік. У наступны раз мы працягнем нашу размову пра дзейнасць бібліятэк у выхаванні патрыятычных пачуццяў беларусаў да ўсяго роднага, беларускага.

***Уладзімір Гук,***
*старшыня ТБМ,*
*Пінскі раён.*

# Выстава Васіля Касцючэнкі

16 кастрычніка 2015 у галерэі "Мастацтва" (Менск) адчынілася цікавая выства Васіля Кузьміча Касцючэнкі, які нарадзіўся 25 лютага 1953 года ў вёсцы Васілёўка Гомельскай вобласці.

У 1974 годзе хлапец закончыў мастацка-графічны факультэт Віцебскага педагагічнага інстытута. З 1987 года з'яўляецца сябрам Саюза мастакоў, а з 1999 г. - міжнароднай Гільдыі мастакоў.

З 1987 па 2000-я гады - выкладаў у Менскім дзяржаўным мастацкім вучылішчы імя А.К. Глебава. Удзельнік выстаў у Беларусі, Швецы, Бельгіі, Францыі, Люксембургу, Расіі. Працы знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, музеі сучаснага выяўленчага мастацтва. Валагодскай карціннай галерэі. У студзені 2007 г. мастак атрымаў прэмію Прэзідэнта Беларусі за уклад у прапаганду беларускага выяўленчага мастацтва і актыўную выставачную дзейнасць. Днямі творца быў узнагароджаны медалём Францішка Скарыны!

На мерапрыемстве выступалі: Рыгор Сітніца, Алесь Дранец, Мікола Пагранічны, Рыгор Несцераў, Сяргей Давідовіч, Уладзімір Шапо.

Выстава будзе працаваць па 29 кастрычніка 2015 года.

***Аляксей Шалахоўскі,***
*гісторык культуры,*
*краязнавец, журналіст.*

# Як зрусіфікавалі літоўскую пчалу

Гаворка, распачатая ў беларускіх СМІ, пра неабходнасць мець у Беларусі Дзень пчаляра штурхнула даведацца пра думку па гэтым і іншых пытаннях у шараговых вясковых пчаляроў Віктара Кудлы з в. Дворышча Лідскага раёна і сям'і Аляксандра ды Алены Лучко з в. Бердаўка таго ж Лідскага раёна.

***- Дык ці патрэбна свята пчаляра, і калі яго святкаваць?***

**В.К.** - Безумоўна свята патрэбна. Бо неафіцыйныя святы ўсяроўна ладзяцца. Так лідскія пчаляры адзначаюць свята "Тушэння дымара". Адзначаць Дзень пчаляра трэба ў канцы лета, магчыма, што і на Мядовы спас.

**А.Л.** - Я пэўны час уваходзіў у Салігорскае аб'яднанне "Бортнік". Там адзначаюць адкрыццё сезона. У нас у сям'і я адказваю за пчол, а жонка - за мёд, то я лічу, што дата ў апошнюю суботу верасня вельмі падходзіць, бо трэба святкаваць тады, калі пчолы дагледжаны, падкормлены і гатовы да зімы.

***- Ці патрэбна пчалярам падтрымка дзяржавы, ці абы не чапалі? Скажам, быў перыяд, калі пчаляры маглі набываць цукар па льготнай цане.***

**В.К.** - У прынцыпе, каб такая мажлівасць была, то было б не лішнім.

**А.Л.** - Для нармальнага пчаляра гэта не істотна. Не такія ўжо вялікія выдаткі на той цукар.

***- Дык што, ад дзяржавы нічога не трэба?***

**В.К.** - Трэба і яшчэ як трэба. Трэба ўпарадкаваць прымяненне пестыцыдаў у садах. Цяпер апырскваюць сады, хто калі хоча і нават падчас цвіцення. Пчала, калі не гіне, то нясе ў вулей гэтую хімію. І ўправы нідзе не знайсці. А пчала ж асноўны апыляльнік. Дзяржава дзеля сваіх ураджаяў павінна дбаць пра пчалу.

**А.Л.** - Самая вялікая праблема, што ніхто не папярэджвае, калі будзе тое апыленне. Ніякай сістэмы няма, каб пчаляр сам мог здагадацца. Тут дзяржава павінна неяк умешвацца і ўмешвацца як мага хутчэй.

***- А ці замінаюць нашым пчалярам прывазны алтайскі ды башкірскі мёд, ці не збіваюць цану?***

**В.К.** - Праблема не ў цане, канкурэнцыя павінна быць. Праблема ў тым, што яны часта прадаюць фальсіфікат. Стаіць на марозе, а ў яго з лыжкі мёд, як вада, сцякае.

**А.Л.** - Канкурэнцыі мы не баімся, але фальсіфікатам гэтыя гандляры падрываюць прэстыж і аўтарытэт і пчаляроў і мёду.

***- Я часта бываю на рынках ды міні-рынках і бачу, што купляюць мёд не вельмі.***

**В.К.** - Адна з прычын, што ў грамадстве страчана культура спажывання мёду. Купіць у год літр і трымае для лекаў, а каб кожны дзень пакрышку, то не.

**А.Л.** - Я лічу, што проста ў людзей мала грошай, што на мёд, што на хлеб. То перш купяць хлеб.

Разам з тым абодва пчаляры гаворацць, што пчалярства развіваецца. Становіцца больш і пчол, і пчаляроў. Пачынаюць займацца пчалярствам гараджане. Па Беларусі пчаляроў не сотні - іх многія тысячы.

Распавёў Аляксандр Лучко і цікавы момант з гісторыі пчалярства.

Аказваецца асноўная на сёння на Беларусі пчала да Кастрычніцкай рэвалюцыі ў расейскіх кнігах па пчалярству мела назву: **цёмная лясная літоўская пчала**. Гэта сведчыць пра тое, што пчала завозілася з Вялікага Княства Літоўскага і рассялялася ў Маскоўскай дзяржаве. Па ўсім відаць, што калі ёй далі назву ***літоўская***, то яна адрознівалася ад абарыгенных пчол. А калі яе завозілі, то па пэўных якасцях яна тых абарыгенных пчол пераўзыходзіла.

Аднак жа пасля 1917 года назва гэтай пчалы ў Савецкай Расіі была заменена на **цёмную лясную сярэдне-рускую пчалу**.

І вось сёння ў інтэрнеце пануе сярэдне-руская пчала, а пра літоўскую пчалу няма і ўспаміну. Пры гэтым і ў беларускім сегменце інтэрнэту тое самае.

Мала таго, што спрытныя суседзі папрысабечвалі нашыя культурныя здабыткі, нашую гісторыю, нашых пісьменнікаў і паэтаў, нашых палкаводцаў і дзяржаўных дзеячаў, мала таго, што з усіх бакоў паабразалі нашыя этнічныя тэрыторыі, дык яшчэ і пчолку скралі.

Магчыма, дзе-небудзь у беларускім падручніку па пчалярству тая літоўская пчала і выжыла, то вельмі б хацелася, каб хоць хто пра гэта паведаміў, а то, куды ні кінь, беларусу крыўда выходзіць, нават калі мёдам прыпраўленая.

***Яраслаў Грынкевіч.***

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

***Заснавальнік:***
ТБМ імя Францішка Скарыны.
***Пасведчанне аб рэгістрацыі*** № 908 ад 18 снежня 2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
***Адрас рэдакцыі:***
231293, Лідскі р-н, в. Даліна.
***Адрас для паштовых адпраўленняў:***
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
***E-mail:*** naszaslowa@tut.by



**http://naszaslowa.by/ http://pawet.net/**
**http://kamunikat.org/ http://tbm-mova.by/**
**http://nashaslova.mns.by/**

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.
Выдавец: Установа інфармацыі "Выдавецкі дом ТБМ".
Газета падпісана да друку 26.10.2015 г. у 17.00. Замова № 3283.
Аб'ём 2 друкаваныя аркушы. Наклад 2000 асобнікаў.
***Падпісны індэкс:*** 63865.
***Кошт падпіскі:*** 1 мес.- 8750 руб., 3 мес.- 26250 руб.
***Кошт у розніцу:*** па дамоўленасці.